* * *

Расьцьвітае сад прыгожа
У арамаце буйных рос,
Месяц ноціцца з-за хмарак
Па акраіне нябёс;
Выйшлі зоркі нарагодам —
Сыплюць серабро на ніз,
Сіняватым, лёгкім дымам
Над ракой туман павіс.
Салавейка ўжо шчабеча
Пра юнацтва і вясну; —
Я пайду яго паслухаць,
Бо ўсёроўна не засну.
Пайду слухаць, як ціхенька
Пачынае сэрца ныць,
І пад песьню салавейка
Я паклічу свае сны:
Дзе-ж вы, сны майго юнацтва?
Дзе вясна маіх гадоў?
Не пакінулі вы сьледу
Між квітнеючых садоў...
Чарнабровая дзяўчына,
Выйдзі, сэрцайка, ка мне, —
Мы у гэты ціхі вечар
Пагаворым аб вясьне...
Раскажу табе пра тое,
Як я жыў і як жыву,
Як з краіны ясных мрояў
Сны прыходзяць на яву.

С. Табалін.

Ларыса Геніюш

## НА НАЧЛЕЗЕ

Вецер хвалі ўперад гоне, вербы гне,
ходзяць спутаныя коні ў тумане.
Буланыя мае коні
капытамі ціха звоняць
ў сэрца мне.
Доўга, доўга ноччу цуднай я ня спаў,
ваганёк па полі блудны вандраваў...
Доўга песьня салаўіна
ня сьціхала срэдзь галінаў,
сярод траў.
Доўга, доўга чуў дзявочы з вёсак сьпеў,
аж пакуль рагаты месяц не самлеў...
Пакуль зоры не пагасьлі думаў я,
вагонь ветры не раздулі,
аж згарэў.
Ноч была, як быццам казка сіняя...
Пакуль зоры не пагаслі думаў я,
што, чым зоры праз галіны, —
чараўней глядзіць дзяўчына
ой, мая...
Ходзяць коні, ходзяць ў раньнім тумане,
ўстануць хлопцы ды да хаты пажанем.
Вецер хвалі ўперад гоне,
яны роднай песьняй звоняць
ў сэрцы мне...



Насіцель Рыцарскага Крыжа гэнэрал кавалерыі Ліндэман адведвае армейскі корпус і абгаварвае тамз камандуючым гэнэралам, насіцелем Рыцарскага Крыжа артылерыі, Водрыгам, палажэньне.
ПК—Здымка: Ваенны справаздаўца Фольцінэн (НН).

# Сёмушныя песьні

Сёмушныя песьні і абрады прымыкаюць да цыклю вясеньніх песьняў, якія зьвязаны з сьвятам Вялікадня і Юр'я. Сёмуха (Тройца, Духаў Дзень, сем тыдняў пасьля Вялікадня) зьяўляецца прадаўжэньнем Вялікодных сьвятаў, а таму што яна прыпадае на самы расьцьвет вясны, то і песьні і абрады, зьвязаныя з ёй, прасычаны вясеньнімі матывамі.

Галоўнай асаблівасьцю Сёмухі зьяўляюцца абрады з дрэвамі і ўспаміны аб русалках. Усе хаты ўбіраюцца зялёнымі бярозкамі, а двары і вуліцы чыста падмятаюцца і пасыпаюцца аерам. Гэты ўдзел зелені пасłужыў прычынаю, што сёмуха называецца яшчэ «зялёнымі сьвяткамі». У песьнях, якія пяюцца падчас Сёмухі, звычайна ўспамінаюцца русалкі. Русалкі — гэта душы маленькіх дзяўчынак, памёршых няхрышчонымі, а таксама душы вісельніц і ўтопленіц. Русалкі выяўляюцца ў народнай фантазіі голымі дзяўчатамі з доўгімі распушчанымі валасамі. Жывуць яны на дне рэчак і вазёр, а па начох выходзяць адтуль, гойдаюцца на дрэвах, ходзяць па жыце, могуць напасьці на праходзячых і заказытаць іх.

Субота перад Сёмухай і сама Сёмуха аж да праводзін іх у панядзелак Пятровага посту зьяўляюцца русалачнымі сьвятамі. Дзяўчаты водзяць карагоды, пяюць песьні, уюць вянкі. У некаторых мясцох Беларусі на першы дзень пятровак дзяўчаты выбіраюць з пасярод сябе найбольшую прыгажуньню, убіраюць яе краскамі і стужкамі. Вечарам, пабраўшыся за рукі, ідуць папарна ў поле. Першая пара падымае рукі, а рэшта праходзіць пад імі. Раскладаюць агонь і скачуць праз яго. Дзяўчаты кідаюць у вагонь вянкі і ўцякаюць, а русалка ловіць іх. Таксама ходзяць у лес завіваць вянкі. На вянкох гадаюць: кідаюць іх у раку і чый паплыве далёка, тая дзяўчына хутка выйдзе замуж, а чый патоне — тая застанецца ў дзеўках аб памрэ.

У некаторых мясцох Беларусі ўбіраюць адну дзяўчыну зеленьню так, што яна робіцца падобнай да «куста», і гэты куст водзяць з песьнямі па вуліцы («кустовыя песьні»).

На Сёмуху (альбо ў Пятроўкі) дзеўкі кумяцца: мяняюцца чым-небудзь — пярсьцёнкамі, хустачкамі і ўвесь год тады кумамі завуцца.

Ніжэй мы зьмяшчаем некалькі сёмушных песьняў.

1.

Пойдзем дзявочкі,
У лугі, лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы заўем вяночкі
На годы добрыя,

На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую.

2.

Ты ня радуйся, клён да ясеню, —
Не к табе ідуць дзеўкі красныя,
Не табе нясуць яешні смачныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ай люлі, ай люлі,
Ай люлі, люлі, люлі.

Ты радуйся, белая бяроза, —
К табе ідуць дзеўкі красныя,
Табе нясуць яешні смачныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ай люлі, ай люлі,
Ай люлі, люлі, люлі.

3.

За рэчкаю, за быстраю
чатыры двары,
А у тых дварох —
чатыры кумы.
«Куміцеся, любіцеся, —
Любіце й мяне!
Як будзеце кветкі рваць, —
Сарвіце вы й мне!
Як будзеце вянкі зьвіваць, —
Завійце вы й мне!
Як пойдзеце на ціхі Дунай, —
Вазьміце вы й мой!
Як кінеце свае венчыкі, —
Кіньце вы і мой!
А ўсе вянкі паверх плывуць,
А мой патануў;
А ўсе дружкі з паходу йдуць,
А мой загінуў!».

 7)

# СУЧАСНАЯ ЭПАПЭЯ

**(Успаміны тлумача беларуса з фронту)**

У Львове мы затрымаліся пару дзён. Увесь гэты час мы былі сьведкамі таго ўзвышанага настрою, якім жыў увесь горад. Было ўражаньне, быццам ён пасьля цяжкое самлеласьці пачаў глыбока й свабодна дыхаць. На вуліцах натоўпы людзей у ўрачыстым настроі, радыя, што скончылася зьненавіджаная бальшавіцкая няволя. Але ў гэтым настроі ня толькі радасьць, але й абурэньне і гнеў на ўцёкшых катаў. Яны, «вызваліцелі», паказалі добра сваю азьвярэлую крыважаднасьць, забіваючы масава лепшых сыноў Украіны, цярпеўшых у Львоўскіх турмах. І гэтая ўрачыстасьць і абурэньне, як-бы навісшае ў горадзе, знайшло свой выраз.

1-га ліпеня ўкраінцы хавалі ахвяры бальшавіцкае крывавае расправы. Усе вуліцы заліты людзьмі і ўсе, анямеўшы ў гэты мамэнт, з бледнымі ад узварушаньня тварамі, паволі, ціхім струменем, ідуць за трунамі. Яны высока, над натоўпам, над морам адкрытых галоваў, падымаюцца, усё вышэй, як бы хочуць паказаць усёй Украіне жудасную праўду мінулых дзен... І падалі словы ў вялікую, сумную цішу анямеўшай грамады, ціхія, поўныя жалю, і накованыя, клікаўшыя помсту сьмяротнаму ворагу. І новыя магілы вырасьлі на Львоўскіх могілках, новыя імёны ўпісаліся ў слаўную гісторыю барацьбы з бальшавіцкімі насільнікамі.

Гнеў рос. Пасьля напружанай цішы ён пранёсься раскатамі грому.

2-га ліпня пачалася чыстка жыдоў. Украінцы бязьлітасна распраўляліся з гэтымі паразытамі на народным целе, якія за бальшавікоў апанавалі ўсё жыцьцё. Цяпер ім прыйшлося расплаціцца за ўсе крыўды, якія яны чынілі ўкраінцам.

Пад уражаньнем гэтых двух падзеяў мы выяджаем з Львова. Едзем далей на ўсход у напрамку Віннік. Праз Віннікі накіроўваемся ў Віннічкі. На дарозе—від, да якога мы ўжо прызвычаіліся, — усюды горы танкаў, гарматаў, трактараў, самаходаў, забітых савецкіх салдатаў і коняў.

3-га ліпня мы ўжо ў Глінянцы. Робім кожны дзень найменш па 50 кілямэтраў. Фронт увесь час пасоўваецца далей на ўсход. Цяпер фронт ужо пад Марыопалем, значыцца, 90 кілямэтраў ад нашага месцазнаходжаньня.

Усюды, у вёсках, мястэчках, у пасялішчах нас спатыкаюць з прывітаньнямі й радасьцю. Усюды пабудаваны пры ўезьдзе брамы, уквечаныя зеленьню й кветкамі. Усюды чуем мы радасныя клічы:

— Гайль Гітлер!

— Вітаем нашых высвабадзіцеляў!

— Слава Украіні!

На брамах павяваюць сьцягі: украінскія й нямецкія. І едзем ізноў далей. Вецярок б'ецца гарачай хваляй у твар, кудравіць сенажаці й гіне дзесь у жытнёвай пастаці, разносячы славу перамогі. І прыемна ў гэтым моры траваў і жытоў ехаць у няведамую даль... А па дарозе ізноў вырастаюць вялікія волаты разьбітай савецкай арміі: танкі, сярод іх волаты Т-52, гарматы, самаходы. І ізноў па дарозе сёлы, мястэчкі з уквечанымі брамамі й незмаўкаючай радасьцю.

Дарога плыве й кілямэтр за кілямэтрам мы ўсё далей і далей. Гарачыя дні зьмяніліся дажджамі. 4-га ліпня ўвесь дзень падаў дождж. На дарогах балота, і мы затрымліваемся. Прыходзіцца пераждаць гэтую непагоду, якая перашкаджае нам ехаць далей. Але назаўтра мы ўжо ізноў у дарозе і вечарам уяжджаем у Белы Камень. Нас ізноў сустракаюць з радаснымі прывітаньнямі й перад уездам, як усюды, прыгожая брама. У Белым Камені мы былі на паніхідзе па згінуўшых ад бальшавіцкай расправы украінцах. На паніхідзе быў прысутны наш гэнэрал.

— Вечная памяць! Вечная памяць! — вісьне жальбоўны сьпеў у царкве... Усім тым, хто ў цяжкіх нялюдзкіх цярпеньнях згінуў за лепшую долю свайго народу... Хаўтурная песьня, у якой зачараваны адвечны боль чалавечага сэрца па адышоўшых ад нас, цісьне душу й нейкім спазматымным усьціскам душыць у горле.

У царкве заімправізаваная магіла — сымбаль згінуўшых ахвяраў. Пасьля паніхіды гэнэрал ускладае вянок на магілу паўшых украінцаў. Ён ідзе наперадзе з пахіленай галавой, сур'ёзны й паважны. За ім два жаўнеры нясуць прыгожы вянок...

А вечарам да нас прыйшла украінская дэлегацыя. Дэлегаты прыйшлі з хлебам і

